# Шлях Моладзі

# Šlach Moładzi

…„Падыймайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



№ 7 (106)

Vilnia, Lipień 1937 h.

Hod IX.

UVAHA! NOVAŚĆ! UVAHA!

# Cennyja premii dla akuratnych padpiščykaŭ „Šlachu Moładzi"!

## Niabyvałaja akazija zusim darma vyjhrać hadzińnik, sekatar, nažy da ščapleńnia dreŭ, cennyja knižki i inš. rečy.

**Administracyja „šlachu Moładzi" pastanaviła sioleta vosieńniu raździalić miž akuratnych svaich padpiščykaŭ premii za ichniuju dbajnaść. Premii buduć padzieleny darohaj losavańnia, da jakoha buduć dapuščany tolki tyja padpiščyki, katoryja apłacili, abo jašče apłaciać padpisku na „šlach Moładzi" za hety sioletni 1937 h. (usiaho tolki dva złotyja).**

### Śpis hałaŭniejšych premijaŭ:

1. Dobry hadzińnik na ruku.
2. Sekatar (nožnicy da abrazańnia halinak dreŭ).
3. 2 nažy da ščapleńnia dreŭ.
4. „Гісторыя Беларускай Крыўскай Кнігі" В. Ластоўскага, якая ў прадажы каштуе 15 зл.
5. „Пчолы" — кніга аб пчалаводзтве Пачопкі.
6. „Гісторыя Беларускай Літаратуры" М. Гарэцкага.
7. „Географія Беларусі" Смоліча.
8. „Хрыстаматыя Беларускай літаратуры" Дварчаніна.
9. Hramafonnaja plitka z biełaruskim narodnym tancam «Lavonicha» i z pieśniaj „A u lesie, lesie" ŭ vykanańni słaŭnaha tenara M. Zabejdy-Sumickaha.
10. Partret biełaruskaha paeta M. Bahdanoviča.

*Apračа hetaha hatujem niespadzieŭku ŭsim akuratnym padpiščykam.*

**Dyk chto choča być u liku dapuščanych da losavańnia premijaŭ, niachaj zaraz pastarajecca apłacić padpisku. Chto-ž padpiski nie apłacić, toj nia budzie pryjmać udziełu ŭ losavańni i tamu vysyłka „šlachu Moładzi" budzie strymana! Vysyłku hetaha numaru strymali dla asob i dalej budziem ustrymlivać usim inšym, što nie apłaciać naležnaj padpiski.**

Treba pamiatać, što svaja presa, svaje časapisy, najlepš baroniać i infarmujuć. Tamu, biełarusy pavinny padtrymlivać svaju presu i pašyrać jaje, zdabyvajučy novych padpiščykaŭ. Biełaruskaja moładź pavinna pieradusim vypisvać i pašyrać „ŠLACH MOŁADZI"!

*Administracyja „Šlachu Moładzi."*


# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Падпіска на 1 месяц 20 гр.; на 3 месяцы 50 гр., на паўгода — 1 зл., на год — 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

**Адрыс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная вуліца № 1—2.

# Шлях Моладзі

ІЛЮСТРАВАНЫ МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Год IX. Вільня, Ліпень 1937 г. № 7 (106).

*Міхась Машара*

* * *

Чырвоным венікам на ўзгорках
зара зьмятае змрок начы.
Ня думай, вёска думак горкіх,
пад крыжам ночы стаючы.

Няхай пагаснуць зоры-сьвечкі,
няхай паўзе вужакай цень,
за цёмнай ночкай млечнай сьцежкай
выводзіць сонца новы дзень.

Прыйдуць яны з дарог далёкіх,
рассыпяць сьмех свой малады,
і з воч сумуючых, глыбокіх
сатруць затрутыя гады.

Ускіпіць сонца на парканы —
вясёлкі ў пацерках расы
і на палёх тваіх неараных
зазвоняць песьні каласы.

Вісяты 8.VII.37.

*П. Граніт*

* * *

Зарою ўсход залоціцца,
лье чырвань на зямлю;
пад п'яную разводзіцу
жыцьця дзень новы родзіцца.
І я жыцьцё люблю!

Іграюць песьні звонкія
калосячы ральлю,
на сонца струны тонкія,
што зьвісьлі над старонкаю,
я песьні разальлю!

# Проціўжыдоўская акцыя і беларуская моладзь

Жыдоўская справа голасная цяпер на ўвесь сьвет. Жыды, народ стары, раскінуты па ўсіх краёх, у сувязі з узрастаючымі проціўжыдоўскімі выступленьнямі, каторыя паўсталі на грунце эканамічным, нацыянальным і расавым, апынуліся ў даволі цяжкім палажэньні.

Усьлед за Нямеччынай, якая ўсімі спосабамі пазбываецца Жыдоў, ідуць іншыя гаспадарствы. Між іншым і ў Польшчы адкрыта ўжо гавораць аб патрэбе эміграцыі Жыдоў, пры тым проціўжыдоўскія забурэньні студэнтаў, пастановы польскіх лекараў і адвакатаў проціў сваіх жыдоўскіх калегаў, а галоўна масавыя і крывавыя проціўжыдоўскія выступленьні ў розных местах, выкліканыя цёмнымі адзінкамі, не даюць гэтаму народу спакою.

Такое палажэньне прымусіла сусьветных палітыкаў шукаць выхаду. І вось, англійская каралеўская камісія, каторая дасьледжвала арабскія проціўжыдоўскія забурэньні ў Палестыне, падала нядаўна ў Лігу Народаў праект падзяліць Палестыну і стварыць там аддзельнае і незалежнае жыдоўскае гаспадарства. Супроць гэтага праекту выступаюць перад усім Арабы, якія ўважаюць, што ўся Палестына павінна належаць да іх. Незадаволены таксама і Жыды, бо ім прызначана малая частка.

Справа жыдоўская вялікая, сусьветная, паважная і дзеля таго гэткая пастаноўка, а таксама і сарганізаваная Саветамі ў Біробіджане Жыдоўская Савецкая Рэспубліка, аканчальна яе ня вырашаць, калі антысэміцкая акцыя не заціхне. А гэтага ня відаць. Наадварот, хваля антысэмітызму, падтрымліваная рознакалёрнымі фашыстамі, узмацняецца і плыве нават у наш край.

У Беларусі Жыды зьявіліся на пачатку 15 стагодзьдзя за часоў Вітаўта Вялікага. Аселі яны пераважна па мястэчках і заняліся гандлем ды рамяслом. Адносіны між Беларусамі і Жыдамі агулам прыязныя.

Беларусы, пераносячы многа розных бедаў і царскую няволю, імкнучыся да самастойнага жыцьця, да адраджэньня, у аснову сваей нацыянальнай ідэолёгіі палажылі прынцыпы дэмакрацыі, прынцыпы волі, роўнасьці і брацтва ўсіх народаў. І таму, калі ў 1918 годзе Беларусы прыступілі да будаўніцтва свайго незалежнага гаспадарства, да вырашаньня лёсу свайго народу і народаў, якія жылі на беларускіх землях, забясьпечылі Жыдом усе нацыянальныя і грамадзкія правы ў Беларусі і заклікалі іх да супольнае гаспадарственнае працы. І Жыды праз нейкі час беларускім адраджэнскім рухам цікавіліся. А ў 1922 годзе Беларусы і Жыды, а таксама іншыя нацыянальныя меншасьці ў Польшчы, творачы магутны выбарны блёк у Сойм і Сэнат, падтрымлівалі супольны фронт. Пасьля аднак адносіны між Беларусамі і Жыдамі пачалі псавацца, астываць. Жыды пайшлі сваей дарогай, пайшлі яны ў большасьці на ўгоду з польскай санацыяй, і мы былі сьведкамі, што калі ў пазьнейшых выбарах у Сойм і Сэнат беларускае арганізаванае грамадзянства ўчасьця не прыймала, байкатуючы іх, то некаторыя Жыды агітавалі нават нашых сялян, каб яны галасавалі на санацыю. Пры гэтым Жыды ў гандлі, па мястэчках і вёсках, пераходзячы з беларускае мовы, якую ўжывалі ў адносінах да сялян, на польскую, сталіся да пэўнай меры полёнізатарамі Беларусаў. Гэта ўсё, а таксама

непрызваітыя часта штукі жыдоўскіх спэкулянтаў прычыніліся да таго, што эндэцкія агітатары для свае проціўжыдоўскае агітацыі часта знаходзяць падатны грунт і сярод беларускага насельніцтва. А тымчасам нам Беларусам няма абсалютна ніякай патрэбы станавіцца з эндэкамі ў рад і йсьці граміць Жыдоў. Бо гэта ня толькі не этычна, не прызваіта, ня культурна, не палюдзку, дзіка, але ня згодна з нашай традыцыяй, нашымі імкненьнямі і абсалютна для нас бескарысна... Нам ня можна забывацца аб тым, у якім мы палажэньні і што нас яшчэ можа чакаць... Думаем, што і Жыды яшчэ агледзяцца і з блуднай у адносінах да Беларусаў дарогі зыйдуць на добрую. Бо як кажа наш слаўны песьняр Янка Купала:

„Пара Жыды, паны усёга сьвету,
сплаціці доўг, які вам Беларусь дала".

Жыды, як такія, і як элемэнт значнай культуры, хоць іншай нацыі, з пункту гледжаньня асыміляцыі для Беларусаў ня страшныя. Наадварот, пры добрай пастаноўцы яны маглі-б нам шмат у чым на культурнай ніве памагчы, так як памагалі іншым народам. Ды на гэта ня трэба шукаць далёка доказаў, бо даволі будзе ўспомніць Зьмітрука Бядулю — Ясакара, жыда, беларускага паэта, пісьменьніка, які ў нашай літаратуры займае неапошняе месца.

Дзеля гэтага нам, беларускай моладзі, прызнаючай найвышэйшым беларускім ідэалам вялікі і дэмакратычны Акт 25-га сакавіка 1918 г., імкнучыся да стварэньня свайго самастойнага эканамічнага жыцьця, праводжаную фашыстамі проціўжыдоўскую акцыю трэба адкінуць і ніякага ўдзелу ў ёй ня прыймаць.

Я. Н.

## Прыйшло ўжо лета гарачае!...



Памажы Божа ў цяжкай працы!..

# Аб прычынах беспрацоўя і эканамічным крызысе

*(Да справы „плянаваньня ў народнай гаспадарцы“).*

У артыкуле „За прадуктыўную працу“ (№ 5 „Шл. Моладзі“) др. Я. Малецкі агулам зусім правільна разважаў аб патрэбе фаховых школ і замены ў большасьці выпадкаў агульнанавучальнай адукацыі на фаховую, паказваючы на культурную адсталасьць нашага земляробства і на магчымы ўзрост дабрабыту сялянства пры павышэньні культуры ў земляробстве. Аднак, высунуўшы агульную зусім правільную і карысную думку, Др. М. ударыўся ў крайнасьць і зрабіў, на мой пагляд, памылку эканамічнага характару.

Гаворачы аб лёсе моладзі акончыўшай агульнанавучальныя школы, др. Я. Малецкі пытаецца: — Чаму-ж гэныя людзі ня могуць сабе знайсьці працы? — Тут-жа адказвае: — Таму, што нашае грамадзянства за беднае, каб кожнаму, хто навучыўся чытаць і пісаць, даць пасаду“. — Пры паднясеньні культуры ў земляробстве „іх (безработных інтэлігентаў) — кажа ў іншым месцы — ня было-б, яны ўсе працавалі-б і за гэта мелі-б належныя варункі да жыцьця“.

Так, чалавек здабыўшы незалежны фах хутчэй знойдзе працу. Слушна і тое, што культура вёскі павялічыла-б выдайнасьць земляробства, аблягчыла-б зямельны голад і безрабоцьце. Аднак гэта ня можа вырашыць поўнасьцю праблемы як умыслова-га, так і фізычнага беспрацоў'я. Злучаныя Штаты Паўн. Амэрыкі, Англія, Нямеччына — гэта культурныя і багатыя краіны. Ці-ж там беспрацоўя няма? Ёсьць, ды ня меншае, чым у нас. Значыць ня ў нізкім узроўні культурнасьці і багацьця ляжаць прычыны беспрацоўя, а ў чымсьці іншым. На гэтую вось тэму хачу даць пару заўваг.

Ці-ж, запраўды, наша грамадзянства, наш край, так бедны? Не. Ён, як і ўвесь сьвет, мае шмат багацьцяў. У крамах, магазынах, на рынку можна купіць розныя тавары — жалеза, вугаль, газу, плугі, хлеб, тканіны— вопратку, ежу, дамы, машыны. Што толькі душа зажадае і колькі захочаш. Абы грошы. Тавары, тавары, тавары. Усюды іх поўна.

Пераважную большасьць тавараў вырабляюць фабрыкі і заводы. Нават хлеб прадукуецца фабрычным спосабам, бо навачасны абшарніцкі маёнтак ці які колектыў, не ўспамінаючы ўжо аб мэханічных млынох і пякарнях, пры застасаваньні высокаякаснай машынізацыі і наёмных работнікаў — прадстаўляе сабой ня што іншае, як фабрыку.

Амаль усе прадпрыемствы знаходзяцца ў прыватных руках: уласнасьць адзінак, каторыя, каб пусьціць у рух станкі, наймаюць работнікаў. Прадпрыемцы будуюць і пушчаюць у ход фабрыкі для зыску, каб вясьці, як кажуць, пэўны інтэрас. Натуральна, работнікам стараюцца плаціць чым паменш, а часам і зусім частку работнікаў замяняюць машынамі. Калі на рынку ёсьць запатрэбаваньне на тавары, дык фабрыкант пушчае ў ход прадпрыемства, а як няма — зачыняе. Яго цікавіць адно: як атрымаць найбольшы зыск. Прадпрыемцам ня цікава ведаць, колькі ёсьць патрабуючых вопраткі, ежы, машын, прыладаў і якіх, а цікавіць іх запатрэбаваньне на рынку.

Патрабуючых шмат, але ня ўсякі можа купіць. *Дык аб руху і абаротах таго ці іншага прад-*

*прыемства рашаюць не патрэбы люднасьці, а запатрэбаваньні на рынку.*

Прадпрыемцы не агранічваюцца ўнутры краёвымі рынкамі, яны вывозяць свае тавары і заграніцу. Вывозяць нават капіталы, закладаюць заграніцай свае прадпрыемствы, або ўходзяць, укладаючы капітал, у прамысловыя супалкі. Так напр. у Польшчы ў жырардаўскіх ткацкіх фабрыках першую дудку йгралі францускія капіталісты. У польскім Горным Шлёнску да сягоньня паважную ролю адыгрываюць нямецкія капіталы. Гэтак гаспадарка ўсіх краінаў зьвязаная паміж сабою тысячамі нітак і складае адно цэлае.

Праўда, гэная суцэльнасьць не такая ўжо ідэальная. Прамысloўцы кожнай дзяржавы хочуць мець у сваім краі пяршынство для сябе. Дык яны баронячыся перад залівам замежных тавараў, пачалі ўстанаўляць часта вельмі вялікія аплаты за перавоз праз граніцы (так зван. цэльная палітыка). Кожны край мае таксама свае гаспадарчыя асаблівасьці, больш, або менш разьвітую прамысловасьць, вышэйшую, або ніжэйшую гаспадарчую памыснасьць. Так напр. у красавіку сёл. ўзровень прадукцыі Польшчы асягнуў 84,3 працэнты ў параўнаньні з 1928 годам; калі іншыя краіны пад канец 1936 году мелі: Баўгарыя 113 працэнтаў, Грэцыя 138, Румынія 137, Мадзярыя 134, Эстонія 120, Фінляндыя 131, Данія 135. У 1932 годзе прадукцыя ўва ўсіх капіталістычных краінах асягнула найніжэйшую ступень. Ад таго часу наступіла значная паправа, у адных дзяржавах большая, у другіх — меншая.

Усе тавары йдуць у нетры агульнага рынку. І ніякі фабрыкант ня можа сказаць, хто будзе спажыўцом яго ных тавараў. Ад фабрыкі да спажыўца тавар праходзіць сетку гуртовых і дэталічных купцоў.

Бязумоўна, апрача капіталістычных, існуюць яшчэ дробныя некапіталістычныя прадпрыемствы. Гэта сялянская і рамесная гаспадарка. Але ў дробнай гаспадарцы ня можна застасаваць навачасных машын, пры ўдзеле каторых значна таньней абходзіцца выраб тавараў, а якасьць іх ня толькі што ня горшая, але наадварот — яшчэ паляпшаецца. Значыцца такія тавары хутчэй можна збыць. Вось-жа пры гэткім стане дробныя прадпрыемствы або зусім банкрутуюць, або вядуць сухотніцкае жыцьцё. Пасьля банкруцтва гаспадары іхнія йдуць на фабрыкі, як работнікі, або астаюцца звычайнымі беспрацоўнымі.

Дык, як бачым, кіруючую роль ўва ўсёй гаспадарцы адыгрывае буйная капіталістычная прамысловасьць.

Вось колькі рысаў сучаснай гаспадаркі, неабходных для зразуменьня прычын беспрацоўя і спадарожных яму гаспадарчых крызысаў.

Мы ўжо раней сказалі, што капіталістычную прадукцыю (вытворчасьць) рэгулюе сьляпы рынак. Калі ёсьць на рынку вялікія запатрэбаваньні тавараў — прадпрыемцы кідаюцца выраблясць іх. Фабрыкі пускаюцца ў ход. Работнікі маюць працу. Няма беспрацоўя. Будуюцца фабрыкі новыя. Прамысловасьць расцьвітае. Аднак пасьля некалькіх гадоў росквіту на рынку аказваецца за шмат тавараў (прадукавалі бяз пляну). Збыць іх трудна, трудней таксама дастаць грошы на закупку сыр'я і на выплату работнікам. Што-раз больш грошаў тады выцягваюць з банкаў, якія ў канцы абвяшчаюць сябе невыплачальнымі — і адзін за другім банкрутуюць.

А як няма збыту для тавараў,

дык нявыгадна і прадукаваць — капіталісты зачыняюць свае прадпрыемствы. Закрыцьцё аднэй фабрыкі, крызыс у аднэй галіне прамысловасьці цягне па такімжа шляху другую. Напрыклад, закрыцьцё доменных печаў (печы, у якіх з руды выплаўляецца жалеза) яшчэ больш звужвае запатрэбаваньне на каменны вугаль, бо выплаўка жалеза адбываецца пры зужываньні вялікай колькасьці каменнага вугля (коксу). Зачыняюцца тады капальні вугля. Расьце безрабоцьце, ка торае ў сваю чаргу б'е па спажывецкіх рынках. Тады з большым размахам банкрутуе спажывецкая прамысловасьць. Беспрацоўе ізноў расьце. Падчас панікі банкроцтваў выяўляецца, як шмат „лішніх" тавараў ёсьць на рынку.

Пасьля некаторага часу тавары памалу раскупліваюцца. Узноў пачынаецца ажыўленьне падобным спосабам, як прыйшоў крызыс. Памыснасьць аднэй фабрыкі, ці цэлай галіны прамысловасьці паляпшае палажэньне другіх. Малее беспрацоўе, а потым зусім гіне. *Значыцца, прычына пераходных крызысаў ляжыць у тым, што прадукцыяй кіруюць сьляпыя сілы рынку, што не бяруцца пад увагу запраўдныя патрэбы люднасьці, а адбываецца толькі гонка за нажывай.*

*Пераходныя крызысы,* а з імі *пераходнае беспрацоўе* стала спадарожнічалі з разьвіцьцём капіталізму. Яны паўтараліся прыблізна ў кожным дзесяцігодзьдзі. Спачатку нават ахоплівалі толькі паасобныя, ці групы галін прамысловасьці, ці групы дзяржаў. Зразумела, падчас такіх крызысаў беспрацоўе было невялікае. Міма крызысаў, тэхніка расла, гаспадарка йшла ўперад, капіталізм шмат чаго зрабіў для чалавецтва. Гэтак было раней.

У XX-м веку пачынаюць праяўляцца ў гаспадарцы аб'явы досыць паважнае гаспадарчае хваробы.

Адным з іх зьяўляецца *паяўленьне сталай арміі безпрацоўя,* але аб гэтым будзем пісаць у наступным нумары.

*(д. б.)*

*Т. Л.*

---

*Максім Танк*

## ШУМЯЦЬ КАЛЁСЫ

Шумяць калёсы, ноч і зоры.
Куды жалезны конь сьпяшыць?..
Мо' хутка родныя разоры
ўбачу я вачымa шыб.
Вось на паўстанку тлум, калёсы,
і нававбранцаў звонкі сьвіст.
Салдацкай песьняй вочы росіць
з трохрадкай п'янай гарманіст.
Пяе аб тым, як маці сына
не дачакалася з вайны...
На шыю рукі хтось ускінуў
пад шопат вуснаў і вясны.
А хто ні з кім ня меў прашчацца,
ні з частаколам, ні з канём, —
ушнураваўшы туга лапці
сыпнуў частушкамі — агнём.
Аж не ўстаяў цягнік на месцы,
пайшоў і люльку закурыў.
А сьледам галасоў са дзьвесьце:
Не забывай!.. Сымон... Гарыл!..
Мы заўтра патужым атоскі,
аб межы выбелім нарог!..
Не забывайце роднай вёскі
снапоў,
дзяўчатаў
і дарог...
Зноў шум, ды зноў калёсы [скобляць
тугу жалезных чорных шын
і ня відаць вазоў, аглобляў
праз вочы пабялеўшых шыб.

16. VII. 37.

---

# Nienarmalnyja abjavy

1—3 lipnia sioleta polskaje katalickaje duchavienstva ładziła ŭ Vilni h. zv. Maryjanski Kanhres. Adbyvalisia nabaženstvy, sabrańni, pachody, a ŭrešcie byli pryniatyja hučnyja rezalucyi.

Z hetaj pryčyny nasunułasia mnoha roznych dumak, ale nia budziem, dy j nia zmožam... naležna ich vyjavić. Dziela hetaha ahraničymsia tolki zaciemkaj, padajučy mietkija zaŭvahi z artykułu B. V. Š. pad nazovam *„Ab čym nie havorycca pabožnym ludziam“*, z vil. polskaj hazety „Kurjer Powszechny“ (№ 179 z dn. 4.VII.1937).

„Kanhres hety — piša B.V.Š.— mima svajho relihijnaha charaktaru, adbyvaŭsia pad kličam jarka palityčnym—baraćby z kamunizmam“... „Ściardžajem fakt, što na maryjanskim kanhresie ŭ Vilni nia ŭpała anivodnaje słova, jakoje haniła-b fašyzm i jahonuju niamieckuju admienu hitleryzm“...

Dzieiłasia heta ŭ Vilni tady, kali ŭ Niamieččynie kožny badaj dzień iduć pad sud i ŭ vastroh cełymi hramadami katalickija ksiandzy, kali baraćba miž hitleryzmam i Katalickim Kaściołam, što-raz zavastrajecca i kali śv. Ajciec, zaklikajučy katalikoŭ da baraćby z kamunizmam, haniačy jaho, vostra tak-ža vystupiŭ i suproć hitleryzmu. Dziŭnyja sapraŭdy źjavy... Ale i ich zrazumieć možna.. Bo „charakterna—piša dalej B.V.Š.— što, jak možna sudzić, ton kanhresu nakinuła śvieckaja asoba, viedamy endecki ideoloh dr. M. Skrudlik, katory pierad tysiačnym natoŭpam pračytaŭ pieradavy referat pad vymoŭnym nazovam: „Dziejova misja Polski, a chvila obecna“...

Kali chodzić ab ideolohiju endecyi, ci inakš „Stronnictwa Narodowego“, dyk jana bolš-mienš usim viedamaja. Endeki—heta pieršyja raznoščyki fašyzmu ŭ Polščy. U adnosinach da Biełarusaŭ prahrama ichniaja ahraničvajecca da adnaho słova — asymilacyja — vynaradaŭleńnie, polonizacyja... Usio-ž heta nia tolki dla nas jość kryŭdnym i varožym, ale i *niazhodnym z ducham Chrystovaje navuki.*

Vielmi charakternym dla kanhresu było i toje, što nichto nie skazaŭ da narodu anivodnaha słoŭca ani pabiełarusku, ani palitoŭsku, što jak u dakładach, tak i ŭ rezalucyjach havaryłasia vyklučna ab polskim hramadzianstvie, polskim narodzie, choć kanhres adbyvaŭsia ŭ stalicy b. Vialikaha Kniastva Litoŭska-Biełaruskaha i choć najbolš słuchačoŭ było z-pad vilenskich viosak, dzie ludzi havorać badaj tolki pabiełarusku i palitoŭsku... dy papolsku časta nie razumiejuć. Ci-ž treba zaznačać, što *„krychu“ jnakš rabili Chrystovyja apostały,* dy ci patrebny tut ahułam jakija pajaśnieńni? Zdajecca što nie... Nia treba chiba havaryć i ab tym, što duchavienstva i Kaścioł pry takoj pracy siarod biełarusaŭ katalikoŭ buduć mieć davier datul, pakul buduć jany ciomnyja i niaśviedamyja. Kali-ž pryjdzie novaje maładoje pakaleńnie i kali ludzi parazumniejuć, adviernucca, adarvucca ad ich, a hetaha razryvu my nie žadajem ani kaściołu ani svajmu narodu. *My žadajem, kab Kaścioł, a taksama i Carkwa, byli maralnaj aporaj našamu narodu i kab duchavienstva vykonvała svaju pracu zhodna z ducham navuki Chrystovaj!...*

*j. n.*

# Siarod skaŭtaŭ u Hiełvadziškach kala Vilni

Vialikija zialonyja afišy zahadzia abviaščali, što ad 24-ha červienia da 7-ha lipnia sioleta niedaloka ad Vilni, u Hiełvadziškach adbudziecca „źlot“ skaŭtaŭ.

Mianie, jak b. skaŭta, ciahnuła tudy niešta niavymoŭnaje, tym bolš što viedaŭ, što tam buduć i pradstaŭniki biełaruskich skaŭtaŭ. Dyk doŭha nia dumajučy ŭ niadzielu 27-ha červienia śpiašu ŭ skaŭcki aboz. Ale Hiełvadziški nia tak blizka, pry tym ja i darohi da ich nia znaju, viedaju adno, što pałožany jany dzieś za Verkami nad Vialloj. Siadaju tady na parachod i jon, tnučy chvali strojnaj i słaŭnaj našaj Vialli, razhaniajučy chmary kajakoŭ i inšych łodak, viazie mianie da Vałakumpiaŭ. Adhetul jašče paru kilametraŭ treba jści piechatoj, ale daroha duža pryhožaja.

Naŭkoła małady saśniak z pachučaj i pryjemnaj žyvicaj, siarod jaho-ž raskinuty dzie-nia-dzie to mienšyja to bolšyja damki — letniščy. Lasok roicca ad ludziej, usie jany pieravažna z „bruškami“... — Tak, pryhoža ŭ Vałakumpiach, ale tut miesca nie dla nas biedakoŭ, praletaraŭ...Možna, praŭda, spatkać i tut rabotnika i sielanina, ale nie lažačaha dahary, abo vypivajučaha, a tolki jak pieravozić dla kupcoŭ i vysokich uradaŭcaŭ rečy, abo kali ŭźbiranuju jahadku, sam nie kaštujučy, niasie i addaje za marny hroš buržuju... Niaroŭnaść i niespraviadlivaść, jakaja isnuje na śviecie i tak jarka adbivajecca na kožnym kroku ŭ mieście, i tut zabiła mnie ŭražańnie z zialonych kustoŭ i dreŭ, siarod jakich daŭno ŭžo nia byŭ.

Prajšoŭšy paru kilametraŭ, pačynaju spatykać na darozie skaŭtaŭ. Pytaju, dzie aboz.

— A voś — kažuć — ŭžo niedaloka.

I sapraŭdy, za pryhorkam, siarod sasonak pry Vialli, ubačyŭ ja mnoha raspałožanych šatroŭ (namiotaŭ), a kala ich, jak murašak, skaŭtaŭ. Da abozu viadzie zbudavanaja skaŭtami brama. Dalej bačŭ plac spartovy, sklepiki, a navat specyjalna dla skaŭtaŭ adčynieny „urząd“ paštova-telefaničny... Usiudy ruch... žyćcio... Skaŭcki aboz vyhladaje na dziŭnaje i niazvyčajnaje miesta moładzi, u lesie, siarod kustoŭ, siarod zieleni, siarod žyvoj krasuni pryrody... Tut sabrałasia paru tysiač moładzi.

Kali tak razhladajučysia, ździŭlenymi vačyma, jšoŭ ja „vulicami“ novaha maładoha miesta i tolki chacieŭ kaho-niebudź zapytacca, dzie tut biełaruskija skaŭty, spatykaju znajomyja tvary... Tak, heta jany, našy chłopcy... Pieršaje pytańnie: Skolki-ž Vas, daražeńkija, siudy pryjechała?

Nie biaz sumu pačaŭ mnie adkazvać družynovy vilenskaj biełaruskaj družyny Kieturka, ab tym, u jak ciažkich matarjalnych abstavinach znachodziacca biełaruskija skaŭty i što zmahła ich siudy pryjechać tolki nievialikaja hrupka, jakaja dałučanaja da zbornaj („źlepkovaj“) družyny, u katoraj bieł. skaŭt Paŭl naznačany zastupnikam družynovaha, a jon sam kiruje haspadarčym addziełam.

U hetuju chvilinu źjavilisia kala nas novyja hości z Vilni, z redakcyi „Šlachu Moładzi“ i „Kaлосься,“ jakija pryjechali na rovarach tak-ža adviedać biełaruskich skaŭtaŭ.

Usie my razam idziom znajomicca z skaŭckim aboznym žyćciom. Dalej abvodzić nas i pakazvaje adzin z pieršych biełaruskich skaŭtaŭ u Vilni, papiarednik Kieturki na stanoviščy družynovaha, Kastuś Paul.

— Tut — kaža,—voś u šatroch

śpimo, tut naša kuchnia, a heta stoł, pry jakim jadziom. Ustajom rana, paśla molimsia razam, a padjeŭšy jdziom da pracy: na krajaznaŭčyja i terenaznaŭčyja ćvičeńni, himnastyku i h. d. Viečaram byvajuć supolnyja vohniščy, pry jakich adbyvajucca lekcyi, hutarki, śpievy i zabavy. Žyć tut pryjemna, viesieła, zdorava, možna adpačyć, paznać ludziej i šmat čaho daviedacca, dy navučycca.



**Kiraŭniki vilenskaje biełaruskaje družyny skaŭtaŭ na „źlocie“:**
K. Paŭl (z hitaraj), Kieturka i Žytkoŭski (st.).

Usiudy bačym čystatu i paradak. Daviedvajusia pry tym, što apračа delehacyi biełaruskich skaŭtaŭ z Vilni, jość na źlocie skaŭty biełarusy z-pad Karelič (Navahradzki pav.), z Bieniakoń (Lidzki pav.), jakija vielmi pryhoža śpiavajuć biełaruskija narodnyja pieśni, z Zalesia z-pad Maładečna, dy inšych kutkoŭ našaha Kraju. „Źlot,“ źjezd i aboz hety byŭ naładžany z pryčyny 25-tych uhodkaŭ isnavańnia polskich skaŭtaŭ u Vilni, dyk bolšaść tut skaŭtaŭ polskich. A apračа biełaruskich skaŭtaŭ, pryjmała ŭ im udzieł i vilenskaja družyna skaŭtaŭ litoŭskich. Paznajomiŭšysia z žyćciom biełaruskich skaŭtaŭ, ahledziŭšy aboz, jdziom u adviedziny da bratoŭ litoŭcaŭ

Pry ŭvachodzie na miesca, dzie raspałožana była litoŭskaja družyna, vitaje nas jejny kiraŭnik Ślekas, sklikajučy adnačasna ŭsich svaich skaŭtaŭ i padryvajučy ich na zvažaj. Jość ich tut 20 čałaviek. Chłopcy zdarovyja, adzin u adnaho. Majuć svaje šatry i ŭsio pryładździe. Paradak usiudy idealny. Nie zadoŭha razhlahajucca na ŭvieś aboz i akružajučy les litoŭskija melodyi. Heta ichni harmanisty vyvodzić ich na svaim harmoniku

Daviedvajemsia, što paśla hetaha abozu litoŭskija skaŭty vybirajucca na vandroŭny aboz pa svaich vioskach. Buduć jany niaści ŭsiudy rodnaje słova i pieśniu moładzi, svoj duch i ideju... Pryhožy namier; byŭ jon i ŭ biełaruskich skaŭtaŭ, ale ŭpaŭ... Upaŭ jznoŭ z pryčyn materjalnych... A treba, kab i biełaruskija skaŭty heta rabili. I hetym treba zacikavicca ŭsiamu biełaruskamu hramadzianstvu.

Uražańnie siarod lit. skaŭtaŭ majem duža pryjemnaje. Pabyŭšy tut z paŭhadziny, raźvitvajemsia, na zakančeńnie ŭpisvajučysia ŭ album, z pažadańniami płodnaje pracy na karyść bratniaha Litoŭskaha Narodu.

Vyjšaŭšy ad litoŭcaŭ raspytvajem svaich skaŭtaŭ, jak układajucca adnosiny ŭ abozie miž biełarusami, litoŭcami i palakami.

— Ahułam, kažuć, zhodna z ducham skaŭckaha prava, h. zn. pabracku. Jasna, adnosiny miž biełaruskimi i litoŭskimi skaŭtami jość ciaśniejšymi, ščyrejšymi i bolš pryjaznymi, čymsia z polskimi, z jakimi časami byvajuć, praŭda, maleńkija, jak dahetul, nieparazumieńni. Adrazu, pry tym, našy skaŭty ŭspaminajuć svajho družynovaha na abozie, palaka, K. Syl

vanoviča z 14 pol. družyny ŭ Vilni, najlepšymi sławami.

Miła pravioŭšy niekalki hadzin siarod skaŭtaŭ, pakidajem ichni aboz. Advodziać nas druž.: Kieturka, Paŭl i ichnija tavaryšy braty Żytkoŭskija. Miłyja chłopcy. Pakidajem i ich, žadajučy ŭzrostu i kab skaŭckaja ideja šyroka raźvivałasia na biełaruskich honiach na česć i sławu našaj Baćkaŭščyny.

---

Abozy skaŭtaŭ, dy jašče abozy, u katorych pryjmajuć udzieł skaŭty roznych nacyjanalnaściaŭ, heta sapraŭdy vielmi pryjemnyja i karysnyja imprezy dla pašyreńnia i ŭzmacavańnia siarod moładzi skaŭckaha ducha. Tady adnak aboz budzie asiahać svaje mety, kali ŭ časie jaho nia budzie niepažadanych i niazhodnych z skaŭckim pravam abjavaŭ. I na žal, aboz u Hiełvadziškach nie abyjšoŭsia biaz ich. Nia budziem hałasłoŭnymi i padamo kolki faktaŭ.

U prahramie abozu, miž inšym, była pradbačana i skaŭckaja aŭdycyja ŭ Vilenskim radyjo. Skaŭty hatovilisia da jaje zahadzia. Kiraŭniki abozu zaprasili da ŭčaścia ŭ aŭdycyi i biełaruskich skaŭtaŭ, jakija pryhatavali i mieli adśpiavać try biełaruskija narodnyja pieśni. Dziela taho adnak, što ŭ vilenskim radyjo byccam „pieśni białoruskie nie są mile widziane“, — kazaŭ ab hetym adzin z kiraŭnikoŭ abozu — A. Vasileŭski — biełaruskich skaŭtaŭ da śpievu ŭ radyjo nie dapuścili. — Nie paskaŭcku taksama adniaślisia polskija skaŭty da vystupleńnia biełaruskich skaŭtaŭ pry ahulnym vohniščy pierad vystupleńniem ich z biełaruskimi pieśniami. Litoŭskich jznoŭ skaŭtaŭ abśvistyvali ŭ časie spartovych jhraŭ u špulaka (sietkaŭku), i to za što?.. — Za toje, što litoŭskija skaŭty ŭ ihry ŭ špulaka pabili ŭsich polskich skaŭtaŭ na abozie, zaniali pieršaje miesca i atrymali pieršuju naharodu.

Usio heta vielmi niapryjemnaje, kryŭdnaje i nie pavinna mieć miesca siarod skaŭtaŭ, prava katorych havoryć ab brackim sužyćci skaŭtaŭ, ab rycerskaści, zdarovym duchu i ciele.

*B. skaŭt.*

---

# XIII-ty Kanhres Nacyjanalnych Mienšaściaŭ

Sioletni XIII Kanhres Nacyjanalnych Mienšaściaŭ Eŭropy adbyŭsia ŭ Londynie ad 13-ha da 15-ha lipnia. Biełaruski delehat na hety Kanhres ks. red. Ad. Stankievič nia mohučy, z pryčyn ad siabie niezaležnych, vyjechać u Londyn, pryznačany jamu referat na temu: „Etyčnyja padstavy nacyjanalna-kulturnych pravoŭ nacyjanalnych mienšaściaŭ“ vysłaŭ sekrataru Kanhresu poštaj. Aprača taho Biełaruski Nacyjanalny Kamitet vysłaŭ Kanhresu pryvitańnie.

Kanhres pačaŭsia 13-ha lipnia. Staršynioj jaho byŭ pasoł dr. V. Załozeckyj — ukrainiec z Černavicaŭ (Rumynija). Naradam Kanhresu prysłuchoŭvałasia šmat palitykaŭ i publicystaŭ. Referat ks. red. Ad Stankieviča pračytaŭ Jury Popaŭ, baŭhar. Na zakančeńnie Kanhres pryniaŭ rezalucyju, u jakoj zvaročvajecca da Lihi Narodaŭ z zaklikam baranić pravy nacyjanalnych mienšaściaŭ, a nacyjanalnyja mienšaści zaklikaje vytryvać u viery, što ŭ kancy ichniaja sprava pieramoža, bo jana jość spravaju spraviadlivaści i žyćcia.

*Michaś Mašara*

* * *

Miesiac srebnuju darožku
pyšna vytkaŭ pa travie.
Zamačyła bosy nožki
idučy ja da ciabie.

Serca ptuškaju spužanaj
zamirała u hrudzioch,
jak ad maci—moj kachany,
ja šahnuła za paroh.

Tolki pomniła ja słovy,
što skazaŭ ty: — prychadzi,
jak zadremić haj alchovy,
jak zaśviecić maładzik.

Serca stała pasłuchmiana;
słovam luby pałaniŭ
i dušu maju da pjana
niejkim chmielem napaiŭ.

Nožki močučy na rosach,
noč karotkuju nia splu,
da ciabie, ty moj charošy,
na spatkańnie ja idu.

Tam nad vozieram, pry haju —
pad hallom staroj alchi
raskažu, jak ja kachaju
tvaje vočy vasilki.

Miesiac budzie płyć i zory
na zatoki apaduć.
Ŭ čaroŭnyja uzory
našy dumki zaplatuć.

Visiaty, 25.VI.37.

# Niekalki słoŭ adkazu hr-nu J. Š.

Ŭ apošnim numary „Šlachu Moładzi" hr. J. Š. krytykuje niekatoryja tezy, vysunutyja ŭ maim artykule ŭ „Pionie" p. n. „Mikroposmos literacki." Nie ŭvažaju ani za patrebnaje, ani kaniečnaje baranić hetych tezaŭ, chacieŭ-by tolki vyjaśnić hr-nu J. Š. niekalki pytańniaŭ, katoryja jon drenna zrazumieŭ.

Pierad usim maja acenka źjaviščaŭ biełaruskaj litaratury jość i musić być inšaja za acenku biełaruskich krytykaŭ. Ich kryteryi źjaŭlajucca adnyja, a maje druhi-hija, jany aceńvajuć dadzienaha paetu, pryraŭnovajučy jaho npr. da jaho papiarednikaŭ, daśledvajučy važnaść jaho tvorčaści dla nacyjanalna-vyzvalenčych metaŭ i h. d., ja aceńvaju taho samaha paetu, pryraŭnoŭvajučy jaho da paezii ahulnaeŭropejskaj i daśledvajučy, skolki novaha prynosić jon svajej tvorčaściu dla suśvietnaj litaratury. Z hetaha i vypłyli nieparazumieńni. Nazvaŭ ja Tanka „pieršym paetam" imienna z hetaha hledzišča, chopić dadać — „hodnym paznańnia dla amataraŭ paetyckich zachapleńniaŭ", i ŭsio pavinna być u paradku.

Dalej hr. J. Š. aburajecca za pryraŭnańni peryjadu biełaruskaje litaratury, jaki prypadaje na pačatak XX v., z pieršaj pałaviny XVI v. u litaratury polskaj i z kancom XVIII v. ŭ litaratury rasiejskaj. Mušu adnak hetaje majo ćvierdžańnie paddzieržyć, hledziačy na biełaruskuju litaraturu z perspektyvy ahulnaeŭropejskaj.

Kab skončyć z hetaj nia vielmi pryjemnaj dla mianie palemikaj, mušu tak-ža zhadzicca i jašče raz padčyrknuć skaz hr. J. Š., što ŭsie tezy majho artykułu ŭ „Pionie" jość i musiać być tolki maim asabistym pahladam. Budu adnak dziaržacca hetaha pahladu až datul, pakul hr. J. Š, zamiest vučyć mianie, nie padaść kankretnych dokazaŭ, jakija śviedčyli-b, što ja mylajusia.

*Jury Putrament.*

# Dzie-ž braterstva?..

## Kanhres „Związku Młodej Wsi“, „Związek Młodej Polski“ i ich adnosiny da Biełarusaŭ.

Adnej z najbolš dziejnych polskich arhanizacyjaŭ siarod biełaruskaje moładzi jość „Związek Młodej Wsi“. Arhanizacyja heta paŭstała z razłamu ŭ „Związku Młodzieży Wiejskiej“, katory paśla majovaha pieravarotu ŭ 1926 h. padzialiŭsia na dva abozy: 1. samastojna-sialanski, jaki schiliŭsia ŭ bok Vitasa i „Stronnictwa Ludowego“ i 2. aboz, jaki chacieŭ iści biez nijakich pieraškodaŭ, śledam za sanacyjnym uradam, ciahnučy z hetaha nie małyja karyści. Dziela taho, što prychilniki „St.Ludowego“ byli ŭ bolšaści, staronniki sanacyi vystupili z „Związku Młodzieży Wiejskiej“ i stvaryli novuju arhanizacyju, jakaja ciapier nazyvajecca: „Związkiem Młodej Wsi“. Arhanizacyju hetuju zaličali da h. zv. „sanacyjnaje demakracyi“, bo byli mamenty, kali „Młoda Wieś“ udarała ŭ tony davoli radykalnyja. I dziela hetaha sioleta, paśla abvieščańnia deklaracyi pałk. Koca ab arhanizacyi „Obozu Zjednoczenia Narodowego“ (OZoNu), jakaja vyrazna havoryć, što novyja kiraŭniki sanacyi jduć usiej paraj na „prava“, chadzili navat čutki, što „Młoda Wieś“ znajdziecca siarod apazycyi. Mylalisia adnak tyja, što hetak dumali. Ludzi, katoryja pryvykli chadzić pa hładkoj darožcy, karystać z vialikich dapamohaŭ, jakija napr. u 1936 h. siahali da 100,000 zł., nie zmahli zdabycca na samastojnaje stanovišča i samastojnuju pracu i pajšli dalej vyhodnaj darohaj za starymi sanatarami.

20-ha červienia siol. u Varšavie adbyŭsia šumna arhanizavany kanhres „Młodej Wsi“. Byli na im: Marš. Śmigły-Rydz, premjer hien. Sławoj-Składkoŭski i šmat inšych vysokich uradaŭcaŭ. Pavodle pradkanhresavych zajavaŭ pavadyroŭ „Młodej Wsi“, na kanhres mieła źjechacca až 60 tysiač moładzi. Tymčasam apazycyjnyja hazety naličyli ŭsiaho 10 tysiač asob, a orhan „Mł. Wsi“ časapis „Siew“ piša, što było ich na kanhresie 30 tys. Sensacyjaj kanhresu była idejovaja deklaracyja, katoruju pračytaŭ staršynia „Młodej Wsi“ St. Gierat. Jana faktyčna była jarkaj adbitkaj deklaracyi pałk. Koca, a nie nastrojaŭ sučasnaje sialanskaje moładzi, navat taje, što naležyć da „Zw. Mł. Wsi“. Najbolš-ža kidałasia ŭ vočy toje, što ŭ deklaracyi nia ŭspomniena ani słoŭcam ab najvialikšym pytańni dla sialanskaj moładzi, ab pytańni haspadarčym, ab ziamielnaj reformie, a taksama ab hramadzkich i palityčnych pravoch moładzi.

Paśla takoj deklaracyi ŭsie dumali, što „Związek Młodej Wsi“ budzie hałoŭnaj arhanizacyjaj OZN. Ale praz niekalki dzion pałk. Koc abjaviŭ kamunikat ab tym, što tvoryć „Związek Młodej Polski“, a dziela taho, što ŭvažaje hetuju spravu vielmi važnaj, kiravać jeju budzie sam. Zastupnikam svaim naznačyŭ J. Rutkoŭskaha, byłaha endeka. Takim čynam faktyčna majem dźvie „ozonovyja“ arhanizacyi. — Jakija jany majuć upłyvy siarod moładzi, na hety raz pisać tut nia budziem, zatoje źvierniem uvahu na adnosiny ich da biełaruskaj spravy.

Voś-ža p. Gierat u svajej deklaracyi zajaviŭ, što „Związek Młodej Wsi“ „imkniecca da braterstva z słavianskimi mienšaściami“, h. zn. z Biełarusami i Ukraincami. Toje badaj samaje zajaviŭ i kiraŭnik sialanskaha addziełu OZN hien. Galica. Ab tym adnak, jak hetaje „braterstva“ maje vyhladać

pakul-što nia viedama. U kožnym adnak razie ani „Związek Młodej Wsi", ani kiraŭniki OZN nidzie dahetul u abaronie chacia-b kulturnaje, ci školnaje biełaruskaje spravy nie zaiknulisia. Naadvarot, tady kali havorycca ab braterstvie, Školnaja Kuratoryja, u suviazi z ahulnaj reformaj školnictva, žlikvidavała staršyja klasy ŭ adzinaj Biełaruskaj Himnazii ŭ Vilni i na ich miesca liceju nie adčyniła i niama nijakaje nadziei, što jaho adčynić. A znača biełaruskaje školnictva dalej likvidujecca.. A chiba-ž naležycca choć adzin „dla voka" licej dla 1,600,000 biełarusaŭ (pavodle aficyjalnaje statystyki) ŭ Polskaj Dziaržavie?..

„Związek Młodej Wsi", pravodziačy svaju pracu siarod biełaruskaje moładzi, nia tolki nidzie nie dapuskaje biełaruskaha duchu, ale kali moładź choča tolki zładzić biełaruskaje pradstaŭleńnie, kali choča ŭ biblijateki ŭviaści biełaruskija knižki i hazety, dyk tyja „koły" moładzi, u jakich henyja imknieńni prajavilisia, miascovyja pavietavyja ŭłady „Związku Młodej Wsi" likvidujuć.

Pytajemsia tady tych, što havorać ab braterstvie i što stajać blizka ŭradu: u čym-ža ichniaje braterstva maje prajaŭlacca, dzie jano?... Ci-ž-by heta byli tolki pustyja słovy?..

J. N.

# Украінская моладзь працуе

— 24 чэрвеня сёл. ў Львове адбыўся другі з чаргі агульны сход Галоўнай Сэкцыі „Хліборобського Вышколу Молоді" „Сільського Господаря". Арганізацыя гэта мае 18 аддзелаў і блізу 8.000 сяброў. У ёй, пад кіраўніцтвам украінскіх аграномаў, моладзь працуе над вывучэньнем земляробства. Х.В.М. выдае свой часапіс „Хліборобська Молодь", які разходзіцца ў ліку больш 5000 экзэмпляраў. Апрача таго ХВМ выдала 14 аддзельных падручнікаў з галіны земляробства для моладзі, ладзіць курсы і выстаўкі. На чале гэтай арганізацыі стаіць др. Е. Храплывый.

— 4 і 5 ліпня сёл. адбыўся ў Львове агульны зьезд гімнастычна-узгадаваўчай украінскай арганізацыі моладзі „Луг". Мае яна блізу 60,000 сяброў і выдае свой часапіс „Вісті з Лугу". Паводле слоў старшыні „Лугу" др. Дашкевіча, арганізацыя гэта ёсьць пачаткам арганізацыі украінскага войска.

— Украінскае гімнастычнае таварыства „Сокіл" у Польскай Дзяржаве мае 22,474 сяброў. Выдае свой часапіс „Сокілскія Вісти", які разходзіцца ў 3.200 экзэмплярах, і шмат розных кніжак аб гімнастыцы і спорце.

„Сокіл", а таксама і „Луг" маюць у Львове свае ўласныя вялікія гімнастычныя пляцы.

— Саюз Украінскае Паступовае Моладзі выдае свой часапіс п. н. „Каменярі", вядзе ён працу пераважна культурна-асьветную, зварочваючы адначасна вялікую ўвагу на фізычнае ўзгадаваньне моладзі.

— Апрача таго ёсьць у Украінцаў арганізацыя Каталіцкае Украінскае Моладзі, якая выдае час. „Украіньске Юнацтво".

Усе вышэй названыя арганізацыі вядуць сярод украінскае моладзі ажыўленую дзейнасьць на карысьць Украінскага Народу і могуць быць узорам працы для беларускае моладзі.

# Новыя здабычы навукі і лятунства

**Навуковая экспэдыцыя на паўночным полюсе. — Самалётам з Масквы ў Каліфорнію. — Сталая паветраная камунікацыя між Амэрыкай і Эўропай. — Праф. Отто Шмідт — беларус.**

Чалавек, ідучы нястрымана наперад, кожны дзень робіць новыя поступы, адкрывае новыя рэчы і здабывае новыя тайніцы прыроды. Тое, што нават ня сьнілася нашым дзядом і прадзедам, аб чым ня думалі калісь найвялікшыя фантазёры, становіцца дакананым фактам.

Нядаўна маланкай абляцела сьвет вестка аб нязвычайна сьмелым і ўдалым палёце савецкае навуковае экспэдыцыі на паўночны полюс, туды, дзе пануюць вечныя халады і вялікія сьнежныя завеі. Пакуль аднак приступім да апісаньня гэтага нязвычайна цікавага факту, пастараемся адказаць на пытаньне, якое можа паставіць яшчэ не адзін наш чытач, а іменна: што такое полюс?

Вось-жа людзі на аснове доўгіх навуковых досьледаў сьцьвердзілі і пераканаліся, што зямля мае форму сплюснутай кулі, для палягчэньня-ж тлумачэньня назавём яе круглым яйком, з наском і пяткай. Мерачы зямлю і дзелячы яе на часткі, самы цэнтральны пункт яе, у нашым прыкладзе цэнтральны пункт яйка на наску, назвалі полюсам*) паўночным, а цэнтральны пункт на пятцы: полюсам паўдзённым. Дзеля таго-ж, што зямля круціцца наўкола сябе і акрамя таго, у працягу году, абкружае сонца бокам, пасоўваючыся, ці лепш — паступова прыбліжаючыся тады, калі ў нас лета, паўночнай сваей часткай да яго, а тады калі зіма — паўднёвай, — полюсы знаходзяцца ў такім палажэньні, што сонечнае сьвятло і цяпло трапляе туды коса і раз на год. Гаворачы выразьней, на полюсе паўгода пануе дзень — тады сьветла, а паўгода ноч — тады цёмна праз увесь гэны час. Дзякуючы гэтаму і дзякуючы ўкладу атмосфэрычных сілаў, абодва полюсы пакрыты лёдам і сьнегамі таму дасьледжваць іх цяжка. Аднак ня гледзячы на ўсе цяжары і нявыгады, чалавек хацеў пераканацца, што там ёсьць. Тым больш, што тут была ня толькі цікавасьць і да пэўнай меры выперадкі, якія йшчэ ня так даўно панавалі сярод вучоных ў адкрываньні новых астравоў і раскрываньні тайніцаў прыроды, але так-жа прычыны гандлёвыя і стратэгічныя — ваенныя. Людзі шукалі і шукаюць усё новых, карацейшых і прасьцейшых дарог на вадзе, а цяпер і ў паветры.

Спачатку быў адкрыты і дасьледжаны паўдзённы полюс Найбольшыя пры гэтым заслугі мае сучасны амэрыканскі падарожнік Бірд.

Да паўночнага полюса дабіраліся ўжо даўно. Як-раз сёлета ў месяцы ліпні мінула 40 гадоў ад таго часу, калі (1897 г.) слаўны швэдзкі дасьледчык С. А. Андрэ першы выбраўся на паўночны полюс балёнам. Экспэдыцыя ягоная кончылася катастрофай і сьмерцяй С. А. Андрэ й ягоных таварышоў. У 1909 г. быў на паўночным полюсе і 6-га красавіка заткнуў там амэрыканскі сьцяг дасьледчык Піры. Даўжэй аднак ня мог ён астацца на полюсе, бо баяўся, што ня хопіць корму для сабак, якімі на санках, па лёдзе туды даехаў. У 1925 г. дабіраўся на самалёце да паўночнага полюса адважны да-

*) полюс — папольску бегун: „biegun".

сьледчык Амундсэн. Год пазьней лётаў над полюсам спэцыяльна да гэтага збудаваны нарвэжскі балён „Нарвэгія“. У гэтым меншбольш часе лётаў там-жа ўспомнены ўжо Бірд. У 1928 г. выбраўся на паўночны полюс італіянскі генэрал У. Нобіле на балёне „Італія“, які аднак зваліўся і з трудом ўдалося выратаваць толькі самога Нобіля і пару яго сяброў. Ратуючы Нобіля згінуў Амундсэн. Апрача таго дасьледжвалі паўночны полюс Кук, Нансэн, Розэ, Вількінс і інш. Усе аднак дасюлешнія досьледы ня былі цяглымі, бо ніхто на паўночным полюсе ня мог затрымацца і належна дасьледзіць, што там ёсьць, а чаго няма.

Далей, перад намі становіцца сьветлая постаць савецкага вучонага праф. Отто Шмідта. Ён паўночным полюсам цікавіўся даўно. Зацікаўленьне гэтае ўзрасло яшчэ больш, калі ў 1934 г. савецкая ўлада даручыла яму на караблі „Чэлюскін“ вышукаць марскую дарогу, якая вяла-б з Белага мора па Ледавітым акіяне, каля паўночнага ўзьбярэжжа Сыбіру да Ўладывастоку ў Азію.— Дарога гэта мае вялікае стратэгічнае значэньне для СССР, бо калі-б гэтым шляхам маглі хадзіць караблі, дык пры помачы ня так даўно адкрытага Беламорскага каналу*) злучылі-б вельмі кароткай дарогай Ленінград і балтыцкую флёту з флётай далёка-усходняй у Ўладывастоку, на які ма юць вялікі апэтыт Японцы. Тады караблём ня трэба было-б рабіць едучы з Балтыцкага мора на Далёкі Усход у Ўладывасток такога кругу, як дагэтуль, аб'яжджаючы ўсю Эўропу, Азію з поўдзеня, а калі Англія зачыніла-б Суэзскі канал, то і ўсю Афрыку. Маючы свой шлях, сваю дарогу на поўначы, савецкая флёта была-б злучанай і мела-б свабоду ў руху, а гэтым самым была-б вельмі ўзмоцненай на выпадак вайны.

*)Беламорскі канал выкапаны бальшавікамі лучыць Балтыцкае мора з морам Белым на поўначы.

Экспэдыцыя „Чэлюскіна“, як ведаем, закончылася катастрофай. „Чэлюскін“ разьбіўся аб ледзяныя крыгі і ледзь удалося выратаваць яго пасажыраў, а ў гэтым ліку і праф. О. Шмідта.

Пасьля гэтага праф. Шмідт, пры помачы аднаго з найлепшых савецкіх лятуноў Вадап'янава, улажыў новы плян экспэдыцыі на паўночны полюс. Плян апрацаваны быў вельмі старанна і савецкая экспэдыцыя, зложаная з выдатных дасьледчыкаў, выбралася на полюс. Але не адразу. Яна спачатку залажыла дасьледчую станцыю і лятунскую базу (апору) на паўночным востраве Рудольфа. Тут перад усім дасьледжвалі мэтэоролёгічныя*) варункі поўначы і рабілі пробныя палёты. Так напр. 5-га мая сёлета над паўночным полюсам быў на лёгкім самалёце лятун Головін, але ён не апускаўся, а прабыўшы 11 гадзін у паветры, вярнуўся на востраў Рудольфа. Аблічыўшы ўсё і дасьледзіўшы акуратна, кіраўніцтва экспэдыцыі пастанавіла выляцець на полюс 21-га мая. Гэтак і сталася.

Першы паляцеў лятун Вадап'янаў, маючы на сваім самалёце „СССР Н—170“ 11 чалавек, на чале з праф. О. Шмідтам. Прайшло некалькі гадзін трывогі і атрымана была тэлеграма: „Усё ў парадку“. Лятун Вадап'янаў апусьціўся 20 кілямэтраў ад полюса на грубой рухомай ледзяной крызе, пад якой нязьмераная морская глыбіня. Праз нейкі час у сьлед за Вадап'янавым паляцелі лятуны Аляксееў і Малакоў. Шчасьліва асягнуўшы мэту і даставіўшы патрэбныя навуковыя

*) Мэтэоролёгія — навука аб пагодзе.

прылады і прадукты для экспэдыцыі лятуны вярнуліся.

На полюсе асталіся: праф. О. Шмідт, кіраўнік экспэдыцыі Папін, радзіст Крэнкер — ёк-жа і кухар, біолёг Шыркоў і астраном Фёдараў. Жывуць яны ў 5 шатрох і будуць там працаваць у працягу цэлага году, дасьледжваючы ўсе зьявы. З востравам Рудольфа і цэлым сьветам злучаны яны радыям, праз якое надаюць камунікаты. Варункі працы вельмі цяжкія. Панують там завеі і маразы, праўда, пакульшто не надта вялікія, бо ў першы дзень было 12°; але пасьля могуць павялічыцца. Пры тым трэба глядзець, каб лёд, на каторым знаходзіцца экспэдыцыя, хоць грубы 3—4 мэтры, не раскалоўся і каб не апынуцца на морскім дне.—Значэньне гэтай працы для дасьледаваньня атмосфэрычных рухаў, пагоды, для дакладнейшага зьмераньня зямлі і для магчымасьцяў падарожы па Ледавітым акіяне караблямі і праз яго самалётамі, — бязумоўна аграмаднае.

---

Пасьля ўдалага здабыцьця паўночнага полюса, у канцы чэрвеня савецкія лятуны: Чкалаў, Байдукоў і Белякоў пастанавілі пераляцець з Масквы ў Сан-Франціско (Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі) праз паўночны полюс. І сьмелы свой намер яны выканалі. Праўда, не даляцелі яны да самага Сан-Франціско, а да места Боракс у штаце Вашынгтон. Аднак і тое, што даканалі, было вялікім, дагэтуль нябывалым рэкордам. Але не на доўга. Бо вось другі савецкі самалёт „АНТ—25“, кіраваны лятуном Громавым, 14-га ліпня ня толькі даляцеў да Сан-Франціско, але йшчэ далей і спусьціўся каля м. Сан-Яцінто ў паўдзённай Каліфорніі.

Палёт Громава трываў без перарыву 61 гадзіну. За гэты час праляцеў ён, перамагаючы буры і маразы, каля 10,860 кілямэтраў і гэтым самым устанавіў новы сусьветны рэкорд даўжыні лёту самалётам без перарыву. Дагэтуляшні рэкорд даўжыні лёту належаў да францускіх лятуноў Кодос і Россі, якія без перарыву праляцелі 9,104 кілёмэтры.

Прэса ўсяго сьвету, бяз розьніцы кірункаў, весткі гэтыя падала з шумнымі загалоўкамі. Скарыстала, ясна, пры гэтым многа і камуністычная прапаганда.

Апісаныя вышэй лёты савецкіх лятуноў сьведчаць аб тым, як высака стаіць у СССР лятунства і як агулам разьвілася авіяцыя.

---

Вялікім поступам у лятунстве ёсьць так-жа наладжаньне між Эўропай і Паўночнай Амэрыкай сталай паветранай камунікацыі. Цяпер бадай кожны дзень вылятае водна-самалёт, г. зв. „гідраплян“ і ляціць у Амэрыку, а адтуль вылятае такі-ж самалёт у Англію. Уся падарожа (ў адну старану) трывае толькі каля 25-ці гадзін.

---

На заканчэньне вернемся йшчэ да экспэдыцыі на паўночным полюсе, а перадусім да яе арганізатара — праф. Отто Шмідта.

Да кожнага вялікага і слаўнага чалавека прызнаюцца і хваляцца ім ня толькі сваякі, але і народы. Нешта падобнае дзеіцца і з праф. Шмідтам.

Адны газэты пішуць, што ён немец, другія што расеец, украінцы пішуць, што ён украінец, бо вучыўся ў Кіеве і доўга прабываў на Украіне. Мы-ж паўторым тое, што сказаў аб сабе сам праф. О. Шмідт 19-га жніўня 1934 году, на зьезьдзе пісьменьнікаў СССР, дзе сваю прывітальную прамову пачаў гэтак:

„Я не прадстаўляю тут літаратуры якой-небудзь рэспублікі, але як *БЕЛАРУС* (падчыркненьне наша — *рэд.*), я выступаю пасьля прадстаўніка літаратуры Савецкай Беларусі“.

Сапраўды, Беларусы могуць гардзіцца тым, што гэтак слаўны вучоны праф. Отто Шмідт залічае сябе да беларускай нацыі. Дык хай-жа наш беларускі зямляк далей працуе на славу Беларусі і на карысьць усяго чалавецтва! *Я—к.*

# Navuka nia jdzie na marna

*Z žyćcia biełaruskaj intelihiencyi na vioscy.*

Biazvietranaja śpiakota što-raz bolš uzmacniałasia. Piasok byŭ haračy, choć jajki piačy.

Andrej vaziŭ hnoj. Razchrystany, zahareły, bosyja nohi ŭkačanyja ŭ hnai. Na darozie poŭna pyłu, a z vozu strašenny smurod. Andrej idzie la vozu, trymajecca za kłanicu, a ŭ hałavie ŭspaminy... Himnazija... horad... kalehi, žyćcio viasiołaje, ech, što było! Žal ahartaje, usio heta minuła i nia vierniecca. Dumaje Andrej—čamu heta žyćcio zbudovana tak, što čałaviek sam saboju nia moža rasparadzicca, nia moža žyć jak choča, a ŭ 99 proc. zaležny jość ad žyćciovych abstavin. — Konski hnoj jedkim pacham hryzie za nos, pył darožny lezie u rot, vušy i vočy — Praklataje žyćcio, dumaje jon dalej. I pa čorta było vučycca, našto było bačyć toje lepšaje, kab paśla tolki žal za dušu hryz.

— Nu, kary, paciahaj — puhaj chłysnuŭ u pavietry.

— I pavošta patrebna ciapier taja navuka; hnoj vazić, harać? I biez navuki možna.

Jana lišni balast (ciažar) na dušy. Na't pahavaryć u vioscy niama z kim. Lepš byŭ-by sabie viaskovym chłapcom, jak i ŭsie, śvistaŭ-by na usio dyj tolki...

Listapad na dvare. Dzień karocieńki, a noč biaskoncaja. Nudzicca Andrej doŭhimi viečarami, niama raboty, niama razryŭki, choć uciakaj kudy... Až adnaho dnia pryjšło da Andreja čatyroch susiedziaŭ z zapytańniem, ci nie zhadziŭsia-b vučyć ichnich dzietak rodnaj movy, pry tym abiacali zapłacić. Uchapiŭsia Andrej z radaściaj za heta, jak tapilec za sałominku: —prynamsi, dumaŭ, razryŭka budzie. Paśla da čaćviarych dałučylisia jašče čaćviora. Praz niejki čas jznoŭ pryjšli sialanie da Andreja-ž užo z prośbaj, kab napisaŭ zajavu — kaaperatyŭ załažyć chočuć. Uściešyŭsia Andrej: i tut jon patrebny. Załažyli kaaperatyŭ. Viečarami pačali žbiracca tudy chłapcy. Chto hazetku čytaje, chto hutaryć. Adzin žviartajecca da Andreja: „A skažy, ty, bracie, chto heta vydumaŭ hramazvod?“

—Amerykaniec, Venijamin Franklin — adkazyvaje Andrej.— Vialiki heta byŭ čałaviek, pamima ahulnaludzkaj karyści, šmat dabra zrabiŭ svajej baćkaŭščynie, siańniašnim Złučanym Štatam, u ich baraćbie za niezaležnaść. —

Druhi chłapiec, jaki čytaŭ hazetu, adryvajecca i začynaje pytać:

— A kali jana była heta vajna za niezaležnaść i z kim?

I pryjšłosia Andreju raskazać usio, što jon znaŭ pra hetu vajnu. Raskazyvajučy, achvotna jon uspomniŭ pra Vašynhtona, admalavaŭ jaho heraizm i vytryvałaść u hetaj baraćbie. Raskazaŭ pra jaho žyćcio, jak jon ad čornaj chatki dajšoŭ da Biełaha Dumu. Usie słuchali, a Andrej byŭ rady. Druhim razam čytaŭ knižku „Chatka dziadźki Toma“ i raskazyvaŭ pra handal ludźmi. Chłopcy vypisali hazety i časapis „Samapomač.“ Andrej čytaŭ usim. I byŭ zdavoleny, što niedarma vučyŭsia, što moža być karysnym dla narodu, pačuŭ u sabie siłu i achvotu da žyćcia i da pracy.

*R. Bulbajed.*

## Na pamiatnik Antonu Levickamu ŭ Vilni achviaravali:

M. Pietkievič 2 zł., A. Jacyna 1 zł., T. V. 2 zł., Krako V. 50 hr., J. Kalicki 50 hr., Jul. Junievič 2 zł., Branisłaŭ Zabaroŭski 50 hr., Dzimitry Kirej 1 zł., Mikałaj Dvarecki 1 zł, Juvenali Buko 50 gr., Makrymiljan Astroŭski 50 hr., Čarnecki M. 1 zł., A. Aniśka 20 hr., Paźniak M. 50 hr., M. B. 1 zł., Ks. J. Siemaškievič 5 zł., V. Š 5 zł., U. Klim 50 hr., Inž. N.-Trepka 3 zł., Jan Panasiuk 1 zł., Anton Łukašević 50 hr., Piotra Chroł 1 zł., Juzefa Čantaryckaja 1 zł., J. Šutovič 50 hr., Śviašč. K. Majeŭski 2 zł., Michał Jarmałkovič 30 hr., Ul. Paŭlukoŭski 50 hr., S. Macuk 50 hr., Łazar Peravozki 1 zł., V. Bahdanovič 70 hr., F. Steckievič 1 zł., A. Šynkievič 50 hr.

*Tych, što žadajuć, kab mahiła słaŭnaha biełaruskaha piśmieńnika i dziejača Antona Levickaha mieła naležny vyhlad i dahetul jašče nie złažyli svaje achviary, prosim heta zrabić jak najchutčej.*

*Usim achviaradaŭcam składajem ščyruju padziaku.*

*Red. Kalehija „Šlachu Moładzi".*

## Z žyćcia katalickaje rabotnikaje moładzi ŭ Francyi i Belhii

18.VII siol. u Paryžy zakončyŭsia vialiki katalicki kanhres rabotnickaj moładzi. Kanhres tryvaŭ 3 dni. Pryjmała ŭ im udzieł 70,000 asob. Byli pry tym prysutnyja: pradstaŭnik śv. Ajca, čatyroch kardynałaŭ i niekalki dziesiatkaŭ arcybiskupaŭ i biskupaŭ. U apošni dzień kanhresu kardynał Paryža Verdier skazaŭ vialikuju pramovu ab značeńni ruchu chryścijanskaje moładzi i pračytaŭ ułasnaručnaje piśmo śv. Ajca da kanhresu. Ahułam kanhres adbyŭsia pad kličam: „Dla novych časoŭ treba novaj moładzi" i ŭ hetym duchu byli pryniatyja hramadzkija rezalucyi.

Z heta vidać, što katalickaja moładź u Francyi prasiaknutaja ducham postupu.

Belhijskaja katalickaja rabotnickaja moładź maje svoj sajuz, da jakoha naležyć 100,000 siabroŭ. Sajuz hety pracuje ŭ kirunku padniaćcia maralnaści i dabrabytu.

## З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ

У м-цы ліпні ў Вільні выйшлі сёлета наступныя беларускія кніжкі:

*Максім Танк* — **Нарач**. Паэма. Выданьне „Калосься". Бачын 100. Фар. 8⁰. Цана 1 зл.

«Калосьсе» — літаратурна-навуковы часапіс, кніжка 3 (12). Бач. 64. Цана 50 гр.

**Як правільна гаварыць і пісаць пабеларуску.** Пастановы зборак у справе чысьціні беларускай мовы ў Вільні. Бач. 18. Цана 70 гр.

**Haspadarski Zbornik.** Bač. 16 Cana 30 hr.

**Ab sadoch i hryboch.** Bač. 32. Cana 45 hr.

**Беларускія (крывіцкія) народныя песьні й казкі.** Бач. 32. Цана 45 гр.

**Гадоўля авец.** Бач. 16. Ц. 25 гр.

Агляду гэтых кніжак, з прычыны нястачы месца ў гэтым нумары, ня можам даць.

Купляць-выпісваць беларускія кніжкі можна з Бел. Кнігарні „Пагоня": Вільня, Завальная 1, а таксама і з іншых кнігарняў.

## Moładź lubić čytać.

*v. Harodniki* kala Kvasoŭki, Horadzienskaha pav. Moładź u nas vielmi achvotna biarecca za čytańnie svaich biełaruskich knižak i časapisaŭ. Nia tak daŭno šmat chto ŭ nas vypisaŭ „Šlach Moładzi," a taksama i „Chryścijanskuju Dumku." Na žal, jany da nas prychodziać vielmi nieakuratna, a niekatoryja numary dzieści zusim hinuć. Siarod moładzi jošć tak-ža vialikija imknieńni i achvota da svaje biełaruskaje arhanizacyi moładzi. Dziela hetaha treba było-b padumać i staracca nanova lehalizacyi statutu, kab usio-ž mieć svaju arhanizacyju.

*H. Ž.*

AD REDAKCYI: Sprava niedaručańnia časapisaŭ vielmi sumnaja. Viestki ab hetym apošnim časam atrymali my nia tolki z Kvasoŭki, ale z Indury, Horadzienskaha pav., Miru, Staŭpieckaha pav., Kazłoŭščyny, Słonimskaha pav. i inš. poštaŭ. U hetaj spravie padali my ŭžo reklamacyju ŭ hazetny addzieł Vilenskaje pošty, bo ŭsim asobam, jakija apłacili padpisku i jakija paviedamlali nas ab tym, što jany časapisu nie atrymlivajuć, „Šlach Mołаdzi" vysyłajecca akuratna.

## Harełka i karty.

*v. Vyviery*, kala Maładečna. Zimoju, a taksama i ciapier viasnoju i letam najhoršym abjavam siarod našaj moładzi jošć karty i pjanstva. Pry kartach moładź pravodzić najbolš času. Pjanstva vyciahvaje apošni hroš i davodzić da roznych nieparazumieńniaŭ, jakija paśla sumnym recham adbivajucca na našym žyćci. Da polskich arhanizacyjaŭ moładź našaja nia choča jści, bo apača palanizacyi nia bačyć tam ničoha. Nia majučy adnak svaje biełaruskaje arhanizacyi, schodzić na biezdarožža, što, jasna, na ruku našym voraham. Uvažaju, što nielha tak dalej pastupać. Zamiest harełki i kartaŭ zaklikaju ŭziacca da čytańnia biełaruskich knižak, časapisaŭ i za sport. Heta nam daść karyść i pryjemnaść.

*M. K.*

## Špulak (sietkaŭka) na vioscy

(*v. Huličy, Lachavickaj voł., Baranavickaha pav.*).

Hod tamu nazad moładź našaj vioski sa składak kupiła sietku i špulak (miač). U-va ŭsie śviatočnyja dni i volnyja hadziny adbyvajucca hulni, u katorych pryjmajuć udzieł nia tolki maładyja chłopcy i dziaŭčaty, ale navat i starejšyja sialanie. Adny hulajuć, inšyja tak sačać za hulnioj, hutarać, žartujuć. Naahuł špulak vyklikaje vialikaje zacikaŭleńnie. Zaŭsiody pry im kipić žyćcio; źbirajecca da 70 asob, što na viosku z 60 chatami davoli šmat. Hulać u špulaka my navučylisia ŭžo dobra. Časam prychodziać pahladzieć na našyja hulni ludzi i z susiednich viosak. Pamiž ichnich adhałosaŭ nie brakuje i takich zaŭvah: „Jak jany mohuć skakać paśla kasy kala sietki." Našaja-ž moładź pierakonana, što tak mohuć havaryć tolki ludzi, katoryja ŭ svaim žyćci nikoli nie zajmalisia sportam.

Špulak dosyć kulturny, cikavy i zdarovy adpačynak. Vy nia vierycie?— sprabujcie, kupicie miač i sietku—chutka pierakanajeciesia.

U našaj vołaści jošć špulak jašče ŭ 2-ch vioskach.

*Spartoviec.*

## ХРОНІКА

### З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

— Арыштавалі. 4.VII сёлета пружанская паліцыя арыштавала грам. П. Засіма, абсальвэнта Віленскага Унівэрсытэту, які прабываў у роднай вёсцы Шэні, Пружанскага пав. і апрацоўваў дыплёмовую працу з галіны земляробства. Паліцыя, як ня дзіўна, вінавацiць грам. Пiлiпа Засiма у камунiзьме, калi ўсiм беларусам у Вiльнi ведама, што грам. Пiлiп Засiм ёсьць антыкамунiстам і праца яго на беларускай ніве была накiравана iменна ў гэтым кiрунку. Думаем, што абвiнавачаньне гэнае памылковае, або апёртае на фальшывых даносах, судовыя ўлады як найхутчэй разгледзяць i нявiннага чалавека, якому перарвалi навуковую працу, чым хутчэй звольняць з арышту.

—Засудзiлi. 22 г. м. ў Вiленскiм Гарадзкiм Судзе разглядалася справа канфiскаты аднаднёўкi „За Беларускую Школу!," якая была выдана летась падчас тагочаснай беларускай школьнай акцыi i сканфiскавана Вiленскiм Гарадзкiм Старастваm. Суд засудзiў выдаўца i рэдактара гэтай аднаднёўкi мгра. Я. Шутовiча на 1 месяц арышту, 50 зл. штрафу i аплату коштаў судовых. Засуджаны адклiкаецца ад гэтага прысуду ў Суд Акружны.

— „Бел. Крынiцу" зачынiлi, рэдактара апраўдалi. 30 чэрвеня сёл. справа спыненьня „Бел. Крынiцы разглядалася ў апэляцыi. Суд вынес прыгавор, каторым спыненьне „Беларускай Крынiцы" зацьвярджаецца, а рэдактар газэты грам. А. Дасюкевiч апраўдываецца. —Супроць гэтага прысуду выдавецтва „Бел. Крынiцы" падало касацыю.

— Сканфiскаваных рэчаў не аддалi. Як мы ўжо пiсалi, некаторыя з Вiленскiх беларусаў, у каторых падчас рэвiзii 28.XI.36 былi затрыманыя, а пасьля пастановай пракурора сканфiскаваныя шмат кнiгаў, дакумантаў i матарыялаў, супроць гэтай канфiскаты падалi ў Акружны Суд скаргу, з просьбай вярнуць iм сканфiскаваныя рэчы. У просьбе сваей яны мiж iншым паказвалi, што ў iх былi сканфiскаваныя кнiгi легальна ў Польшчы выдадзеныя i кольпортаваныя, а так жа матарыялы сабраныя да навуковай працы... 1.VII. Суд аднак паведамiў заiнтэрэсаваных, што пастанову пракурора пакiдае ў сiле. А знача сканфiскаваных рэчаў беларусы не атрымаюць. — Гэткiм спосабам загiне мiж iншым многа i вельмi цэнных дакумантаў i кнiжак забраных у Кс. рэд. А. Станкевiча.

—Забаранiлi. Сёлета ўвайшоў у сiлу польскi закон, паводле якога ўсе арганiзацыi, якiя маюць нейкiя азнакi для сваiх сяброў, на нашэньне гэтых азнакаў мусяць мець асобны дазвол ад уладаў агульнае адмiнiстрацыi. Па думцы гэтага закону Беларускi Студэнцкi Саюз у сваiм часе падаў у Вiленскае ваяводзтва просьбу, каб дазволiла публiчна насiць шапкi Саюзу i банты. Ваяводзтва аднак прыслала адказ, якiм сябром Беларускага Студэнцкага Саюзу забаранiла насiць саюзныя шапкi i банты (iстужкi), не падаючы нiякiх матываў. Урад Саюзу забарону гэту заскаржыў у Мiнiстэрства. — Характэрна, што студэнцкiя саюзы iншых народаў гэткiя дазволы атрымалi.

— „Голас Студэнта". Пад гэткiм назовам 26.VI сёл. ў Вiльнi выйшла бел. студэнцкая аднаднёўка, якую Староства сканфiскавала за артыкул „Нацыянальная i сацыяльная праблема". Суд канфiскаты аднак не зацьвердзiў. Па канфiскаце выйшаў наклад другi гэтай-жа аднаднёўкi. Зьмест яе цiкавы, кiрунак народна-дэмакратычны. Рэдактарам i выдаўцом аднаднёўкi зьяўляецца студ. В. Ярмалковiч.

—

— „Ворагi народу". Далейшая „чыстка" ў Савецкай Беларусi не абмiнула i пэрсонэлю Беларускага Дзяржаўнага Унiвэрсытэту ў Менску, дзе аб'яўлены „ворагамi народу" мiж iнш. гэткiя асобы: ведамыя лiтаратурныя крытыкi i прафэсары Пiотуховiч i Бранштэйн, а так-жа Дзякаў, Кучынскi, Каляда, Шчарбакоў, Успенскi, Афанасьеў, Ляўданскi, Пшанiчны,Кернажыцкi i iнш. Менская „Зьвязда", якая гэту вестку падала, сьцьвярджае, што з прычыны гэтай „чысткi" Унiвэрсытэту пагражае страта акадэмiцкага году, бо няма кiм запоўнiць навуковага пэрсоналю.

На апошнiм зьезьдзе Камунiстычнай Партыi Беларусi, выявiлася, што ў БССР вельмi моцна разрастаюцца нацыянал-дэмакраты, з якiмi камунiсты рашуча змагаюцца.

— Новы прэзыдэнт БССР. Дасюлешнi прэзыдэнт БССР Чарвякоў, стары бел.камунiст,пад уражаньнем атакаў на яго на зьезьдзе Камунiстычнай Партыi БССР,за кантакт з расстраляным кам. Убарэвiчам, 16 VI сёл. застрэлiўся. На месца Чарвякова выбраны Стакун. Новы прэзыдэнт у Беларусi працуе ўсяго ад 1935 г., спачатку як паўнамоцнiк народнага камiсара спажывецкага промыслу, а пасьля як сэкратар Гомельскага партыйнага камiтэту.

— Krakaŭski arcybiskup Sapieha na ŭłasnuju ruku i suproć voli Prezydenta i ŭradu pieranios cieła Marš. J. Piłsudzkaha z kaplicy św. Leonarda ŭ kryptu pad Siarebranymi Zvanami. Vyklikała heta vialikaje abureńnie siarod polskaha hramadzianstva, asabliva-ž siarod piłsudčykaŭ. Adbyvalisia suproć hetaha pastupku sabrańni, demanstracyi i h. d. Urešcie adnak kanflikt zakončyŭsia tym, što arcybiskup Sapieha pieraprasiŭ Prezydenta.

— Hazety pišuć, što siarod školnaj polskaj moładzi pajavilisia nielehalnyja adozvy padpisanyja „Klubam 13 maja". (13 maj heta dzień prychodu da ŭłady piłsudčykaŭ u 1926 h.). Klub heny założany byccam hrupaj maładych piłsudčykaŭ, varaža nastrojeny suproć akcyi pałk. Koca, jakomu 18.VII niaviedamaja dahetul adzinka mieła padłažyć bombu. Bomba adnak kala domu pałk. Koca razarvałasia zarana i razarvała taho, chto jaje nios.

— Z pryčyny nieatrymańnia paŭnamoctvaŭ ad Senatu na praviadzieńnie finansavaj reformy, ŭrad Bluma ŭ Francyi padaŭsia ŭ adstaŭku. Novy ŭrad sarhanizavaŭ radykał Šotan i jon paŭnamoctvy na reformu dastaŭ. Urad Šotana, tak jak i ŭrad Bluma, składajecca z pradstaŭnikoŭ levicy i centru—narodnaha frontu.

— U Hišpanii na baskijskim froncie, paśla zaniaćcia fašystami Bilbao, zmahańni krychu prycichli. Zatoje ŭzmocnilisia kala Madrytu. Treba pry tym adciemić, što Francyja na svajej hranicy z Hišpanijaj skasavała mižnarodnuju kantrolu. Kantrola heta była pastaŭlena ŭ suviazi z akcyjaj nieintervencyi, katoraja zusim pravalilasia, bo Niemcy i Italija ŭściaž pamahali i pamahajuć paŭstancam.

— U Irlandyi adbylisia vybary ŭ parlamant. Bolšaść mandataŭ zdabyli niezaležniki. Heta pryčynicca da akančalnaha zryvu Irlandyi z Anhlijaj, jakaja ŭsio choča jeju „apiekavacca".

— Hazety pišuć, što faktyčnaj pryčynaj rasstrełu Tuchačeŭskaha i jahonych tavaryšaŭ było toje, što jany mieli zrabić u SSSR pieravarot škiravany prociŭ Stalina.

— 20.VII sioł. pamior vialiki vučony, vynachodca telehrafu blaz drotu i radyja G. Marconi (čyt. Markoni).



— Miž Japonijaj i Kitajem paŭstała novaje nieparazumieńnie. Nienasytnyja japoncy jznoŭ lezuć u hłyb Kitaju, chočučy zavodzić tam svaje paradki i ciahnuć adtul dabro. Na hety raz adnak kitajcy pastanavili ŭsimi siłami baranicca. Z hetaha pačałasia farmalnaja vajna, jakaja raźvivajecca pierad usim kala stalicy Kitaju, miesta Pekin, ahulny vyhlad katoraha padajom vyšej na ilustracyi.

## PAŠTOVAJA SKRYNKA

Michasiu Kamyšu: Vieršy da druku jašče nie nadajucca. Ahułam nia radzili-b pačynać pisać vieršaŭ, nie apanavaŭšy dobra movy, a kali heta niemahčyma, dyk starajciesia pisać prosta i jasna, adnačasna prysłuchoŭvajciesia da narodnych pieśniaŭ, jak jany napisany i pierapracoŭvajcie mataryjały, jakija drukujucca ŭ biełaruskaj presie. Jak majecie biełaruskuju hramatyku i pravapis, to pry ich pomačy možacie paznać svaju hramatu, tolki treba papracavać.

J. K.: Vaša ŭvaha adnosna źmiestu „Šl. Mol." pravilnaja i my ŭžo sami heta zaŭvažyli, i dalej litaratury i vieršam budziem paśviačać miesca krychu mienš.

M. Aŭdziejčyku: Hrošy atrymany i razdany zhodna z prośbaj.

Я. П.: „Воўк" слабы і да друку не падходзіць, няхай гэта аднак не зьнеахвочвае Вас да далейшай працы, бо як больш папрацуеце, то зможаце даць і лепшыя рэчы.

Р. Бульбаеду: Апавяданьне „Блудны сын" — слабое і да друку не падходзіць. На адказ „Новаму Шляху" ў справе „Калосься" шкада месца. Апавяданьне „Сярод чужых" „Калосьсе" у друк ня пусьціць. Прывітаньне!

Каровапасу: Прысланыя матарыялы да друку не падходзяць. Апавяданьні прозай гавораць, што здольнасьці да пяра маеце, але трэба яшчэ папрацаваць і як найбольш чытаць. Вершаў пісаць ня радзім. Мо' лепш і для Вас, думаем, было-б і большая карысьць для часапісу, каб Вы прысылалі карэспандэнцыі з жыцьця свае ваколіцы. Просьбу спаўняем. Кніжкі і „Шлях Моладзі" высылаем ужо другі раз. Дамагайцеся на пошце.

П. Граніту: З прысланых матарыялаў будзем карыстаць. Апошнія вершы гавораць, што Вы працуючы над сабой ужо патрапілі перамагчы некаторыя недахопы як з боку тэхнічнага, так і мовы. Але яшчэ трэба працаваць. Асьцеражней ужывайце запазычаныя звароты, а старайцеся самі ўзбагаціць сваю мову новымі абразамі. Граматыку пастараемся выслаць.

Забоце: Вершы, нажаль, яшчэ слабыя, але поступ ёсьць. З карэспандэнцыі будзем карыстаць.

## Krychu śmiechu.

### Praktyčnaja arytmetyka.

— Na stale siadzić piać muchaŭ, kali adnu z ich zabju, skolki astaniecca?

— Adna, panie vučyciel.

— Jak heta, što ty havoryš?

— Nu tak, astaniecca tolki zabitaja mucha, a žyvyja ŭciakuć.

### Maładyja i staryja.

— žonka, kali heta dziaciuk pojdzie ad našaj dački, heta-ž užo pozna.

— A, niachaj pasiadziać jašče, daražeńki. Ci-ž ty nia pamiatuješ, jak my kališ siadzieli.

— O, kali hetak, to mušu jaho zaraz vyhnać z chaty.

### Advažny.

U škole vučyciel navučaje chłopcaŭ, jak majuć chavacca ad napaści samalotaŭ: Kali kryknu —„samalot," dyk chavajciesia. Voś-ža ŭvaha:

— Samalot, chavajciesia!

Usie vučni chucieńka pachavalisia pad łaŭki, tolki mały Strachun astaŭsia i stajaŭ spakojna dalej.

— čamu-ž ty nie chavaješsia, jak inšyja chłopcy? — pytaje vučyciel.

— A, što pan prafesar dumaje, što ŭžo na śviecie niama advažnych hierojaŭ — adkazaŭ horda Strachun.

### Zakład.

— Idu ŭ zakład na ŭsiu svaju kiecku.

— što tam, tvaja pustaja kiecka, ja daju hałavu.

— A što, skažy, u tvajej hałavie jość?



*Часапіс рэдагуе Рэдакцыйная Калегія.*

*Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я.Найдзюка і А. Шутовіча.*

Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар Я. НАЙДЗЮК.